

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№19 (1036) 27 студзеня 1995 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 541972 экз. Кошт у розніцу — 150 руб.


АФІЦЫЙНА

## У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

25 студзеня пад старшынствам М.Грыба адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Перад пачаткам пасяджэння членамі Прэзідыума было прынята рашэнне запрасіць Старшыню Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі І.Рыбкіна наведаць Рэспубліку Беларусь з афіцыйным візітам 3—4 лютага 1995 года ў адпаведнасці з папярэдняй дагаворанасцю, а таксама накіраваць на парламенцкія слуханні аб расійска-беларускіх адносінах у Дзяржаўную думу Расійскай Федэрацыі групу дэпутатаў Вярхоўнага Савета на чале з першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета В.Кузняцовым.

У ходзе пасяджэння Прэзідыума абмеркавана пытанне аб абавязковасці выканання пастаноў Вярхоўнага Савета, прынятых у рамках яго кампетэнцыі, усімі фізічнымі, юрыдычнымі асобамі, дзяржаўнымі служачымі на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. У сувязі з гэтым Камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўству зроблена даручэнне падрыхтаваць праект адпаведнага заканадаўчага акта і ўнесці яго на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета.

Абмеркаваны пералік пытанняў, якія падлягаюць разгляду на шаснаццатай сесіі Вярхоўнага Савета з 30 студзеня. У парадак дня прапануецца ўключыць амаль 30 законапраектаў, частку — у другім чытанні. Сярод іх: "Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь", "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь". Дэпутатам таксама трэба вярнуцца і да Закона "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь", заслухаць даклад Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю "Аб выніках праверкі фактаў, выкладзеных у дакладзе дэпутата Вярхоўнага Савета Антончыка С.А. на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 20 снежня 1994 года"; разгледзець праекты законаў "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў". Увазе парламентарыяў будуць прапанаваны законапраекты "Аб свабодных эканамічных зонах на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь", "Аб асновах дзяржаўнага страхавання", "Аб крэдытаванні жыллёва-будаўнічых кааператываў". Плануецца абмеркаваць таксама пытанне аб развіцці сельскай гаспадаркі і шляхах вываду яе з крызіснага стану.

Зацверджаны ўказы Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб узнагароджаннях Ганаровымі граматамі.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — Белінфарм.**

Альтэрнатыўны погляд

## Апазіцыя не пагаджаецца з пазіцыяй афіцыйных улад

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

На прэс-канферэнцыі ў Вярхоўным Савеце, у якой прынялі ўдзел Зянон Пазьняк, Уладзімір Заблоцкі, Іван Нікітчанка і Анатоль Станкевіч, прагучалі самыя прынцыповыя ацэнкі пагадненняў паміж Беларуссю і Расіяй. Зроблены яны былі на падставе высноў, якія змешчаны ў спецыяльных заключэннях "ценявога" кабінета міністраў па кожнаму з пагадненняў. Іх галоўны сэнс: мафіёзна-бюракратычныя сілы, якія зараз адолелі сваіх канкурэнтаў-дэмакратаў у кіраўніцтве Расіі, разам з беларускай бюракратыяй падрыхтавалі глебу да знішчэння спачатку эканамічнага, а потым як вынік і палітычнага суверэнітэту Беларусі. Набор інструментарыя падрыхтаваны вельмі шырокі: гэта і мытны саюз, які, на думку эканамістаў "ценявога" кабінета, не адпавядае асаблівасцям нашай эканомікі, і дамовы аб ваенным супрацоўніцтве і выкарыстанні Расіяй ваенных баз у Беларусі, што непазбежна ўцягне нас у полымя канфліктаў на расійскіх абшарах, і, самае галоўнае, — стварэнне так званых фінансава-прамысловых груп у складзе расійскіх і беларускіх прадпрыемстваў, дзе вядучая роля і адпаведна асноўныя прыбыткі застануцца за расійскім бокам. На прэс-канферэнцыі падкрэслівалася, што, на думку дэпутацкай апазіцыі, ФПГ — гэта той "траянскі конь", з дапамогай якога расійскі капітал, што знаходзіцца ў руках мафіёзна-бюракратычных груповак, поўнасцю "накладзе лапу" на нашы нафта- і газаправоды, на вытворчасць аўтамабіляў, электронікі, машынабудаванне і іншыя перспектыўныя галіны прамысловасці. Пры гэтым адзначалася, што стварэнне ФПГ непазбежна пазбавіць народ Беларусі магчымасці прыватызаваць значную частку дзяржаўнай маёмасці, бо з працэсу будзе выключана маёмасць тых прадпрыемстваў (падкрэслю — самых эфектыўных), што ўвойдуць у склад гэтых расійскіх груп.

Яшчэ адзін істотны вывад прагучаў на прэс-канферэнцыі. Яе ўдзельнікі лічаць, што, падпісаўшы пагадненні з Расіяй, па-першае, парушыў Канстытуцыю рэспублікі прэм'ер-міністр, які не меў на гэта права, і, па-другое, Прэзідэнт, які не меў права перадаваць свае паўнамоцтвы каму б там ні было. Па сутнасці, у такім становішчы павінен прагучаць голас Канстытуцыйнага суда.

Застаецца яшчэ адно складанае пытанне: ці павінен Вярхоўны Савет ратыфікаваць пагадненні, і калі так, то ці зробіць ён гэта? Па першай частцы пытання адказ быў аднадушны — павінен. Па другой — на думку Зянона Пазьняка, "пагадненні не будуць падтрыманы".

Як кажуць, дажывём да панядзелка. На будучым тыдні адновіцца сесія Вярхоўнага Савета, на якой будуць падведзены вынікі перамоў паміж Расіяй і Беларуссю. Чый погляд возьме верх — пакажа час.

Вопиюще!

## Троллейбус-убийца мне дверь отворил...

Рассказываю о том, что видел собственными глазами. Конечная остановка троллейбусных маршрутов у станции метро "Институт культуры" в Минске. Место посадки пассажиров. Подходит сорок пятый номер.

К задним дверям первым приближается плотный мужчина лет пятидесяти в синей куртке. Ступает на подножку и вдруг валится навзничь — спиной на проезжую часть в жижу из снега и грязи. Шатаясь, встает, задевает рукой двери и... снова молча валится.

У зрителей на остановке вырывается едкое:

— Ну-у, накушался с утра... В двери не попадает!

Следом в троллейбус пробует войти молодая женщина в черной шубе. Касается дверей — и точно так же ее бросает спиной оземь...

Наконец-то до нас доходит: людей бьет электротоком! Именно бьет, а не по-бытовому "дергает". Люди валятся в грязь под колеса, как снопы, как после удара пудовым кулаком. Даже закричать, предупредить других нет силы. Мужчина тянет ко мне руку, и на большом его пальце вижу ожоговый след, в момент отслоившуюся кожу.

Пострадавшие отползают на четвереньках, народ приводит их в чувство. Наконец-то о неладном догадывается водитель троллейбуса. Выскакивает наружу, осматривается: убитых нет... Возвращается в кабину, захлопывает двери пустой машины и — "на педаль". Пострадавший мужчина в бессильном гневе вздымает кулак: "Я тебе покажу"...

Ну и что он покажет! Видел я, как на мясокомбинате бьют электротоком скот. Вот и мы — те, кто ездит в троллейбусах, такой же скот у себя в стране. Быдло. Ну, найдут, если сильно захотят, в троллейбусном парке "стрелочника". Ну, накажут его лишением премиальных. А трезвый добропорядочный гражданин, работник и кормилец семьи, попрежнему не будет уверен, что после очередной встречи с троллейбусом-палачом его сердце не остановится от электрошока окончательно. И что ему и его детям от того, что где-то лишат премиальных какого-то механика?

Много ли мы знаем примеров, когда в противостоянии государственной организации с "просто" человеком государственный суд изначально бы исходил из интересов последнего?.. Это "у них", если налогоплательщик поскользнулся на грязном тротуаре и вывихнул лодыжку, то муниципальные власти в зубах принесут чек для лечения на лучшем курорте. И за моральный урон заплатят.

...Утерев грязь с лиц, люди забрались в следующий троллейбус. Произошло это 25 января с.г. на посадке у станции метро "Институт культуры" в 13 часов 20 минут. Машина 45-го маршрута N 3131.

**Сергей КРАПИВИН.**


агенцтва Графуова

**Курсы обмена наличных валют** в коммерческих банках на 27 декабря 1994 .

тел./факс (0172) 325-105

| НАИМЕНОВАНИЕ БАНКА | Доллар США | | Немецкая марка | | Российск. рубль | | Телефоны для справок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | |
| 1. КОМПЛЕКС-БАНК | 9750* | 10260 | 6142* | 6504 | 2.57 | 2.79 | 067 |
| 2. БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 10050* | 10550 | 6370* | 6690 | 2.55 | 3.00 | 267-022 |
| 3. БЕЛАРУСБАНК | 9975* | 11312* | 5985* | 7070* | | 2.75 | 239-250 |
| 4. БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл.операц.управ) | 9900* | 10500 | 6200* | 6700 | 2.50 | 3.00 | 067 |
| 5. НАРОДНЫЙ БАНК | 9850* | 10350 | 6270* | 6600 | 2.60 | 2.90 | 238-610 |
| 6. ПРОФБАНК | 10100* | 10590 | 6100* | 6800 | 2.85 | 3.05 | 239-344 |
| 7. СБЕРБАНК | 9900 | 10300 | 6150 | 6400 | 2.50 | 2.70 | 067 |
| 8. ОЛИМП | 9800 10339** | 10290 10650** | 6202 6543** | 6554 6783** | 2.56 2.73** | 2.83 3.05** | 508-556 |
| 9. ДУКАТ | 9900* | 10500 | 6300* | 6600 | 2.20 | 3.00 | 201-063 |
| 10. СП ГУБИСС РЕСУРС (за росс. рубли) | 9900 3610 | 10250 3800 | 6100 | 6350 | 2.60 | 2.85 | 769-177 |
| 11. БЕЛБАЛТИЯ | 10050 | 10550 | 6350 | 6650 | 2.40 | 2.65 | 207-625 |
| 12. "СОЛИД" | 10000 | 10350 | 6300 | 6600 | 2.60 | 2.80 | 202-993 067 |
| 13. БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор. дирекция | 9800 | 10250 | 6200 | 6500 | 2.55 | 2.90 | 634-341 |
| 14. МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 10000 | 10500 | 6200 | 6500 | 2.20 | 2.80 | 372-825 |
| 15. ф. п. "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ" | 9900 | 10400 | 6000 | 6600 | | | 293-187 |
| 16. ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 9600 | 10300 | 6110 | 6560 | | 3.08 | |
| 17. БЕЛИНВЕСТБАНК | 9800 | 10350 | | 6600 | | 2.90 | |
| 18. филиал № 1 банка ОЛИМП | 10100 10302** | 10450 | 6350 6477** | 6600 | | | 291-646 |
| 19. ЕВРОПЕЙСКИЙ | 9750 10300** | 10300 10610** | 6200 6550** | 6550 6750** | 2.65 2.78** | 2.80 3.04** | |
| 20. МАГНАТБАНК ф-л 001 | 9500* | 10400* | 5900* | 6400* | 2.65 | 2.90* | |
| 21. "СОТРУДНИЧЕСТВО" | 10100 | 10700 | 6450 | 6850 | 2.75 | 3.00 | |

*-Возможна операция за наличный и безналичный расчет

**-Операция проводится только по безналичному расчету


## 26 января 1995 г. Площадь Свободы



**Федерация профсоюзов Беларуси провела в Минске многотысячный митинг в защиту прав трудящихся.**

**Власти, по мнению выступавших на митинге, избрали для реформ самый незамысловатый путь — залезть в карман нищего народа.**

**Требования митингующих строги и лаконичны: остановить спад производства, обеспечить занятость, дать человеку право на достойную жизнь.**

**Акции протеста проведены во всех крупных городах страны.**

**Фото Сергея ГРИЦА.**

## Прэзідэнт адбыў у Польшчу

26 студзеня ў Рэспубліку Польшча па запрашэнню яе прэзідэнта Леха Валенсы для ўдзелу ў мерапрыемствах, прысвечаных 50-годдзю вызвалення канцлагера Асвенцім, адбыла афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. У яе састаў уваходзяць таксама віцэ-прэм'ер Уладзімір Русакевіч, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Польшчы Георгій Таразевіч і мастак Міхаіл Савіцкі — старшыня камітэта малалетніх вязняў канцлагераў, старшыня фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне".

**Белінфарм.**

## ВІНШУЕМ!

Учора ў Доме ўрада адбылося ўрачыстае ўручэнне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь прадстаўнікам літаратуры, культуры, навукі, народнай гаспадаркі. Пасведчанні і знакі лаўрэатаў уручылі М.Грыб і М.Чыгір.

***Лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі — паэтэса Раіса БАРАВІКОВА (на левым здымку); пісьменнік Уладзімір ЮРЭВІЧ (на правым здымку).***

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**



МАСКВА—МІНСК

## Дэпутаты Думы думаюць пра Беларусь

Яшчэ не прайшло і года, як у сценах расійскай Дзярждумы зноў абмяркоўваюцца праблемы і перспектывы расійска-беларускіх адносін. Тады мы адзначалі, што ініцыятыва расійскіх дэпутатаў не бескарыслівая, але ў канчатковым выніку нацэлена на фарсіраванне дагаворных працэсаў з Расіяй, жыццёва важных для нашай рэспублікі. Гэтыя перагаворы штучна зацягваліся некаторымі адказнымі ўрадавымі чыноўнікамі. А мы адчувалі вялікую патрэбу ў дапамозе. У маі прэзідэнт Ельцын даў згоду на выдзяленне нашай рэспубліцы крэдыту ў суме 200 мільярдаў рублёў. Гэтых грошай мы не атрымалі па сённяшні дзень.

І ўсё ж тады выразна намеціліся некаторыя партнёрскія адносіны ў палітычнай і эканамічнай галінах, прадпасылкі для паглыблення інтэграцыйных працэсаў, надання ім рэгулярнага і інтэнсіўнага характару.

А ўчора расійскія парламентарыі правялі яшчэ адны слуханні аб расійска-беларускім супрацоўніцтве па ініцыятыве камітэта Дзярждумы, які ўзначальвае дэпутат К.Ф.Затулін. У слуханнях прынялі ўдзел парламентарыі з іншых фракцый і камітэтаў, кіраўнікі і спецыялісты міністэрстваў і ведамстваў. Запрошаную на слуханні беларускую дэлегацыю ўзначаліў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь В.М.Кузняцоў.

Варта адзначыць, што інфармацыя многіх прадстаўнікоў расійскіх ведамстваў, якія выступалі на слуханнях, вызначалася самакрытычнасцю. Прызнавалася, што за прайшоўшы перыяд мала што змянілася ў актывізацыі перагаворнага працэсу. Занепакоенасць выклікае тое, што паміж асноўнымі расійскімі міністэрствамі і ведамствамі адсутнічаюць узаемадзеянне, спагадлівыя адносіны да беларускіх эканамічных праблем, што некаторыя ведамствы вінаватыя ў павольным наладжванні сувязей паміж прадпрыемствамі. Няма чаго грахі таіць, цяперашняя расійская чыноўніцкая актыўнасць выклікана хутчэй за ўсё тым, што ва ўрадзе пачалі разумець усю бесперспектыўнасць высакамерных адносін да свайго "малодшага" партнёра, які поўнасцю залежыць ад расійскіх пастаўак.

Аднак кіраўнік дэлегацыі на перагаворах з Рэспублікай Беларусь В.В.Папоў рэзонна адзначыў, што паміж нашымі краінамі няма канфліктных сітуацый. Партнёры настроены на агульны баланс інтарэсаў, на тое, каб з кожным крокам зБліжаць пазіцыі ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

95-ы год пачаўся падпісаннем цэлага пакета дакументаў з Рэспублікай Беларусь, у ліку якіх Пагадненне аб мытным саюзе, дакумент аб мерах па забеспячэнню ўзаемнай канверсуемасці і стабілізацыі грашовых адзінак абедзвюх краін і іншыя важныя міждзяржаўныя пагадненні.

Працэс супрацоўніцтва, як адзначыў расійскі бок, будзе ў гэтым годзе ўмацоўвацца і пашырацца. Аб гэтай тэндэнцыі сведчыць і той факт, што нядаўна Рэспубліку Беларусь наведаў міністр замежных спраў Расіі А.У.Козыраў, што ў пачатку лютага ў Мінск прыбудзе з афіцыйным візітам І.П.Рыбкін. Паскоранымі тэмпамі вядзецца падрыхтоўка дакументаў, якія будуць падпісаны ў Мінску ў час маючага адбыцца візіту Б.Ельцына.

На слуханнях цяжэй за ўсё было прадстаўнікам фінансава-вытворчых ведамстваў. Іх справядліва абвінавачвалі дэпутаты ў тым, што тыя ў першую чаргу клапаціліся толькі аб меркантыльных мэтах, у асноўным "выбіваючы даўгі", а не наладжванні сувязей. І хутчэй за ўсё прычына "ахаладжэння" з расійскага боку ў тым, што высокапастаўленыя чыноўнікі баяліся "продешевить", заключаючы выбарачна тыя або іншыя дагаворы і пагадненні.

Адчуванне няёмкасці ад такіх шчырых "слуханняў" крыху згладзілася, калі старшыня думскага камітэта па справах СНД К.Ф.Затулін паведаміў беларускім гасцям:

— У пятніцу на пленарным пасяджэнні Дзярждумы дэпутаты павінны прыняць дакумент аб выдзяленні доўгачаканага крэдыту ў суме 150 мільярдаў рублёў.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ, уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў Маскве.**

***Ніл ГІЛЕВІЧ:***

## Пакуль жыве мова — жыве народ

***Пяць гадоў таму — 26 студзеня 1990 года — на сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР быў прыняты Закон аб мовах. Аб тым, наколькі ён ужо рэалізаваны, і ішла размова на прэс-канферэнцыі старшыні парламенцкай Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніла Гілевіча. Асабіста ён прыклаў нямала намаганняў, каб такі закон наогул з'явіўся. Хоць, як падкрэсліў Ніл Сямёнавіч, гэта было прадыктавана самім жыццём.***

Пакуль што найбольш спрыяльная сітуацыя з выкананнем Закона аб мовах назіраецца толькі ў сферы адукацыі. Каля 70 працэнтаў першых класаў перайшлі ўжо на беларускамоўнае навучанне, і гэта тая разумная мяжа, якая адпавядае колькасці беларусаў у рэспубліцы. Ніякім чынам не ставіцца задача поўнасцю выкараніць усе іншыя мовы, сказаў Ніл Гілевіч. Хоць калі чалавек любой іншай нацыянальнасці з'яўляецца грамадзянінам Беларусі, ён павінен дасканала валодаць яе дзяржаўнай мовай. Праблема ў тым і заключаецца, што мала навучыць гаварыць па-беларуску школьнікаў, трэба, каб і па-за межамі навучальнай установы яны траплялі ў беларускамоўнае асяроддзе. А гэта, калі цвяроза глядзець на рэчы, пакуль што з'яўляецца чымсці з галіны фантастыкі.

— Неабходна дзейнічаць больш рашуча, — гаворыць Ніл Гілевіч. — Дзесяць гадоў я толькі і чуў, што клопат аб мове — справа пісьменнікаў, справа адной нашай камісіі. З такой пазіцыяй мы далёка не зойдзем. Падтрымка беларускай мовы, яе развіццё павінны стаць клопатам усяго грамадства. Усё часцей гучаць прапановы аб увядзенні другой дзяржаўнай мовы — рускай. Да чаго гэта можа прывесці, тлумачыць не трэба, як і тое, што пакуль жыве беларуская мова, будзе жыць і беларускі народ.

**Віктар КУКЛОЎ, Белінфарм.**

ВЧЕРА

## Александр Федута как зеркало администрации Президента Беларуси?

**Алесь СИВЫЙ**

***Бывший начальник общественно-политической информации администрации Президента Александр Федута собрал вчера журналистов, чтобы сделать сенсационное заявление.***

Все оказалось гораздо прозаичнее. Александр Иосифович, принявший на себя "бомбовый" удар за установку издательству "Белорусский Дом печати" не печатать небезызвестный доклад депутата Сергея Антончика, а ныне работающий в "репрессированной" "Белорусской деловой газете", подал обращение к Александру Лукашенко. Вот его полный текст:

"Президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко

Как сообщила газета "Советская Белоруссия", первый заместитель Генерального прокурора Беларуси В.Кондратьев сделал официальное заявление, из которого следует, что в администрации Президента и Кабинете Министров с момента их создания фактов коррупции не было. В связи с этим прошу Вас (Президента. — **Авт.**) в соответствии с ранее сделанными заявлениями отменить запрет на публикацию доклада депутата С.Антончика и дать указание опубликовать его, стенограмму его парламентского обсуждения и полный текст заключения прокуратуры в тех республиканских газетах, которые этого пожелают. Этот шаг будет воспринят обществом как знак доброй воли Президента и поспособствует ослаблению конфронтации между властью и политическими партиями накануне парламентских выборов. Считаю своим долгом обратить также Ваше внимание на то, что этот шаг находился бы в полном соответствии с тем заявлением, которое Вы сделали накануне второго тура президентских выборов: "Пресса должна сделать глоток свободы". Сегодня у Вас есть возможность попытаться нормализовать взаимоотношения с прессой, и Вы не должны ею пренебрегать. Отказ от этой возможности был бы еще одной ошибкой, которой Вы можете избежать".

Александр Федута, оказывается, знавший о своем нарушении Конституции Беларуси в истории с "белыми пятнами", был хладнокровен.

"Согласен, что я не имел права отдавать приказ генеральному директору издательства. Но генеральный директор не имел права выполнять мой приказ".

**— Господин Федута, кому нужно сегодня публиковать доклад Антончика?**

— Думаю, что доклад на самом деле печатать сейчас бессмысленно. Тем более что, по-моему, уже готовится "вторая серия" Антончика. А вот дружить Президенту с прессой нужно. Зачем повторять ошибки Вячеслава Кебича?

**— Вы в курсе снятия главных редакторов центральных газет? Может быть, репрессии продолжатся?**

— Игорь Осинский, бывший главный редактор "Советской Белоруссии", сам себя и подставил. Это я знаю по финансовой проверке. Что касается главредактора "Рэспублікі", то тут я развожу руками. Бессмысленная перемена. Я говорил об этом Лукашенко, но он в очередной раз меня не послушал.

Со стороны может показаться, что Александр Федута, очень даже неожиданно всплывший "в верха", а затем съехавший обратно, просто флиртует с прессой, пытаясь загладить старые грехи. Очень даже может быть. А может?.. Время покажет.

Так сенсационно ли заявление А.Федуты?

Народная газета

ПРАЦЯГВАЕМ ДЫСКУСІЮ, ВЫКЛІКАНУЮ ПУБЛІЦЫСТАМ А.КАЗЛОВІЧАМ

# Беларусы паміж небам і зямлёй

## Не ностальгия по прошлому заставила нас взяться за перо, а тревога и боль за судьбу самого ценного, что у нас есть, — земли

Нынешние пашни и луга Полесья без преувеличения — рукотворные, и созданы они в основном в последние 30—35 лет. Сегодня — это полтора миллиона гектаров мелиорированных сельскохозяйственных угодий, без малого половина земель сельскохозяйственного назначения. Причем лучшая ее часть.

В среднем на каждое хозяйство приходится по 1,5 тыс. гектаров осушенных сельскохозяйственных земель. За гектарами стоит длинный перечень всего того, что именуется инфраструктурой (десятки тысяч километров дорог, тысячи сооружений, насосных станций и т.д. и т.п.). Можно ли представить существование региона без всего этого? Что станет с Любанским, Пинским, Лунинецким, многими другими районами Полесья, если взять у них осушенные земли и возвратить в исходное состояние?

Полностью на бывших болотах работает колхоз имени Горького Пинского района. Здесь эти земли составляют 83% сельскохозяйственных угодий, каждые четыре из пяти гектаров пашни — практически все сенокосы. За последнее десятилетие уровень производства продукции сельского хозяйства в колхозе вырос в 8 раз. Даже в условиях жесточайшего финансового кризиса и крайне засушливого вегетационного периода прошлого года каждый гектар сельскохозяйственных угодий колхоза дал по 51 центнеру кормовых единиц, а пашни — по 70 центнеров. На что можно было рассчитывать хозяйству без этих земель, имея в наличии чуть больше 70 га пашни и 600 га лугов на малопродуктивных 15—20-балльных песчаных почвах?

Спросите любого жителя колхоза, и он скажет — для наших условий не было и нет альтернативы разумной мелиорации земель, мелиорации как улучшения не только самих земель, но и условий работы и, что очень важно, — условий жизни.

Мы давно убедились, что одностороннее осушение — строительство дамб, дренажа — само по себе ничего не дает ни земле, ни работающим на ней людям. В хозяйстве изначально был взят строгий курс на быстрейшее вслед за осушением окультуривание почв с помощью повышенных доз органических удобрений, сидератов, использования бобовых культур. Колхоз, словно чувствуя приближение развала государственных эксплуатационных мелиоративных организаций, приобрел необходимую технику для ухода за мелиоративными землями и даже для выполнения некоторых мелиоративных работ собственными силами.

Почему так не делалось всегда и везде, почему спрямлялись малые реки, для чего дренировались песчаные почвы, с каким смыслом создавались в лесной Беларуси огромные степные пространства, где даже зайцу негде спрятаться, не говоря уже о лосе или косуле?

Выскажем наше мнение в связи с этим. В течение многих десятилетий мелиорация оставалась единственным источником государственных вложений в территорию. И каждый руководитель, маленький и большой, прекрасно понимал — не выбьет он деньги на эти цели, других средств у него не будет. Вот почему шли на различные уловки, чтобы любой ценой получить средства на мелиорацию земель хозяйства, района, области, республики. Кому это удавалось — строил жилье, дороги, многое другое. Сколько за счет мелиорации построено в Пинске, Лунинце и даже Минске!

Сегодня можно клеймить позором мелиораторов, но что это даст, кроме шума. Ведь старых, кто проектировал и строил, уже почти нет, а новые делают не так уж плохо. И подтверждением этому колхоз им.Горького Пинского района. Какие только экологические миссии сюда ни наезжали, никто не уехал с дурным чувством.

Сохранение в естественном состоянии более 6 тысяч гектаров пойменных болот, организация водоохранных зон, создание водооборотных осушительно-увлажнительных систем, исключающих попадание в водные источники биогенных веществ, наконец, грамотное земледелие и луговодство — все это способствует сохранению и приумножению здоровья территории. А удивительная в эстетическом отношении система прудов! В результате в хозяйстве можно организовать музей природы — резко возросла численность водоплавающих птиц, журавлей, появилась даже такая редкость, как черный аист.

Говорят, что заботу о земле должен взять на себя хозяин. Где он? За последние пять лет удельные расходы на эксплуатацию мелиоративных систем в Пинском районе сократились более чем в 30 раз и составили в 1994 году 0,3 американского доллара на гектар. Последствия такого "ухода" прогнозировать очень просто. Они уже сегодня проявляются во многих хозяйствах Полесья и всей республики. В отличие от локального по времени и обратимого характера последствий, вызванных недостаточно высоким уровнем агротехники, отсутствие хотя бы части обязательных к выполнению эксплуатационных работ неизбежно приведет к зарастанию мелиоративной сети травяной и кустарниковой растительностью, ее заилению, вторичному заболачиванию сельхозугодий и, в конечном счете, к выходу их из сельскохозяйственного оборота. Говорить о продуктивности этих земель в данной ситуации вообще не придется.

В последние годы резко ухудшилось использование мелиорированных земель. Расходы почвенных запасов элементов питания превышают их поступление, что обусловлено продолжающимся снижением применения минеральных и органических удобрений. Особенно тревожит вольное обращение с наиболее экологически уязвимыми осушенными торфяниками, что может привести к ускоренной их деградации, образованию на их месте сложных органо-минеральных почвенных комплексов с резко контрастными водным режимом и агропроизводственными свойствами.

На торфяных почвах должно быть строго контролируемое экологически и экономически обоснованное землепользование. Только оно в нынешних условиях может стать общей альтернативой имевшей место ранее интенсивной эксплуатации. Уменьшение технических возможностей, забота о продлении долговечности диктуют расширение площади многолетних трав на торфяных почвах и недопустимость возделывания пропашных на мелкозалежных. Многократное подорожание энергоносителей, а тем самым и азотных удобрений заставляет идти на расширение посевов бобовых культур.

Основным владельцем земли в республике является государство. Следовательно, государство должно разработать эффективно действующий механизм мотивации и контроля сохранения земель, а также санкций за ухудшение их состояния. В первую очередь тех земель, куда были вложены большие народные деньги. Сегодня идет бешеное посягательство на святая святых — землю. Если за 20 лет (1971—1990 гг.) на Полесье из сельскохозяйственных угодий выбыло 507 тыс. гектаров, то только за 1991—1992 гг. — 347 тыс. га.

Представим, что осталось бы от земельных ресурсов Полесья, если бы в это время не проводились мелиоративные работы. Закон о земле Республики Беларусь признал частную собственность на землю. Пройдет время, и немалое, пока появится настоящий фермер. Ведь он должен не просто много знать, а все уметь делать своими руками. Наши деды и прадеды передавали крестьянские навыки из поколения в поколение, в каждой округе веками формировалась своя система земледелия, приспособленная к местным условиям. Мы же прервали эту цепь обучения и воспитания и долгие годы делали из крестьянина поденщика с узкой специализацией.

Сложившаяся ситуация требует усиления внимания всех властных структур, сельскохозяйственных и природоохранных органов, всех землевладельцев и землепользователей к охране земель вообще и мелиорированных в особенности. Земля — наше главное национальное достояние. Республика входит в мировую систему мониторинга природной среды. Крайне важно — обеспечить функционирование достойного почвенного мониторинга с выделением специального блока осушенных земель. Необходима их инвентаризация и учет на основе современных аэрокосмических методов индикации.

Во все времена вложения в землю считались самым выгодным делом. Хочется верить, что наше общество не настолько больно, чтобы превратиться лишь в потребителей продуктов питания. Пусть вечно живет Земля Беларуси!

**В.ГОРОШКО,**
**председатель колхоза им. Горького Пинского района, кандидат сельскохозяйственных наук.**
**А.МЕЕРОВСКИЙ,**
**доктор сельскохозяйственных наук, профессор.**
**В.БЕЛКОВСКИЙ,**
**доктор сельскохозяйственных наук.**



Фота Валянціна КУКАЛЕВА.

## Няма куліка і кнігаўкі — няма і цэнтнераў...

Прытчы пісьменніка Анатоля Казловіча "Беларусы паміж небам і зямлёй" я чытаю, як свой лёс, з імі перажываю свой боль, бо ўсё гэта мне блізкае, роднае, палескае. І няхай нам не тлумяць галовы мудрацы-артадоксы, якія ўсё яшчэ ганьбяць нашу зямлю. Няхай уладары прыгоннага права не таўкуць ваду ў ступе, быццам бы палешукі на сваёй зямлі калісьці мерлі з голаду. Гэта хлусня. Час вызначыў прагрэс усяго свету, а не бальшавіцкі рэвалюцыйны гвалт разам з ягонай згубнай меліярацыяй на Палессі. У канцы мінулага стагоддзя расійскі акадэмік А.І.Ваейкаў, які аб'ездзіў наш край, пісаў: вёскі ў гэтым краі былі самымі багатымі ў Расіі, палешукі не ведалі голаду, які перыядычна апустошваў Расійскую імперыю. Калі багатая прырода, чалавек заўжды пракорміцца.

Няма больш райскай прыгажосці ў маёй вёсцы Дубое, што на Піншчыне. Няма куліка, кнігаўкі, няма белай лілеі! Няма! Не пачуеш больш велічнай сімфоніі птушынага раю. Ёсць толькі балбатня пра гектары ды цэнтнеры. А чалавеку сапраўды патрэбен не толькі хлеб, але і спеў салаўя. Але ж ці былі ў нас тыя самыя цэнтнеры, пра якія, не сціхаючы, балбочуць будаўнікі камунізму?

Адзін кемлівы селянін з аднаго славутага на Піншчыне калгаса засумняваўся ў тым, што калгас збірае больш за 40 цэнтнераў збажыны з гектара. Узяў ён мяшочак, нажніцы і пайшоў на поле шукаць самы лепшы палетак збажыны. А калі знайшоў такі, вымераў квадратны метр і састрыг усе каласочкі ў мяшочак. Але мовіў сабе: "Бог любіць Тройцу". І ў другім, і ў трэцім месцы зрабіў тое ж самае. Прыйшоўшы дахаты, кемлівы селянін знакамітага калгаса каласочкі перацёр ў далонях, ачысціў зярняткі ад паловы і панёс ў аптэку, каб зважыць на аптэчных шалях. А вярнуўшыся з аптэкі, папрасіў унука-дзесяцікласніка пералічыць ягоны эксперымент на камп'ютэры. І атрымалася... менш за дваццаць цэнтнераў з гектара.

— Людзі добрыя, — казаў потым кемлівы селянін усялякі раз, калі заходзіла размова пра высокія ўраджаі ў знакамітым калгасе, — гэта ж чыстай вады абман: сеюць, для прыкладу, 150 гектараў, а пішуць — 100. Вось адкуль бяруцца гэтыя дзьмутыя цэнтнеры.

Гэта — прытча, хоць я мог бы засведчыць таго чалавека ў наяўным жыцці. Бо потым не стала жыцця чалавеку ў яго родным сяле, за праўду ў нас дагэтуль душаць.

Дык дзе ж вашыя "цэнтнеры", таварышы старшыні калгасаў і саўгасаў — А.М.Корбут, К.І.Шаплыка, А.А.Гілеўскі, І.І.Іокша, Н.В.Кандраценя ("Народная газета" за 22 снежня 1994 г. — "Сберечь труд поколений мелиораторов")? Няма! Няма куліка, няма кнігаўкі, няма белай лілеі... Няма і цэнтнераў...

**Каленік УДАВІДЧЫК,**
**ветэран вайны і працы.**
*Пінскі раён, вёска Малоткавічы.*

## За што вы так ненавідзіце свайго земляка?

Пяцікутны хаўрус сярпа і молата, утвораны чырвонымі памешчыкамі, вырашыў даць бой аўтару прытчаў "Беларусы паміж небам і зямлёй" А.Казловічу. Сам па сабе факт напісання імі артыкула "Сберечь труд коллектива мелиораторов", надрукаванага "Народнай газетай" 22 снежня 1994 года, — не на карысць абаронцаў меліярацыі на Беларусі. І вось чаму.

Па-першае, пяцёра — супраць аднаго. Кампанейшчынай пахне.

Па-другое, нягледзячы на тое, што артыкул "Паміж небам і зямлёй" надрукаваны на беларускай мове, пасквіль на яго пішацца на іншаземнай. Дзе яшчэ, у якой частцы зямнога шара, у якога малалікага афрыканскага народа можна сустрэць падобнае? Тым больш што аўтары пасквіля жывуць і працуюць, адпачываюць і кіруюць у асяроддзі носьбіта беларускай мовы і культуры — сялянства. Ганьба!

Па-трэцяе, ідэя меліярацыі на Беларусі пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, пасля масавых пажараў, пасля навадненія ў 1993, 1994 гг., пасля змяншэння ўдвая плошчы унікальных азёраў, пасля тарфяных смерчаў — гэтая ідэя ў вачах простых беларусаў, асабліва палешукоў, цалкам сябе дыскрэдытавала.

Старшыні калгасаў, аўтары артыкула, кампанію па меліярацыі на Беларусі намагаюцца паказаць як вялікае шчасце для зманкуртаванага саўкова-каўбаснага беларускага натоўпу, як сродак "для удовлетворения постоянно возрастающих потребностей людей..."

"Мы не имеем права обходить молчанием подобные публикации", — пішуць яны, маючы на ўвазе прытчы А.Казловіча. Такой заявы ў трыццатыя гады было дастаткова, каб без суда і следства запіхнуць чалавека ў "чорны варанок", адвезці ў Курапацкі сасоннік...

За што ж вы так ненавідзіце свайго земляка, таленавітага журналіста?

Відаць, не аднымі прытчамі пра згубнасць меліярацыі для навакольнага асяроддзя ўзбударажыў вас А.Казловіч? Гэта — помста чалавеку, які сказаў праўду пра сістэму чырвонапамешчыцкага самадурства на вёсцы, прычым зрабіў гэта па-мастацку, вуснамі былога вашага куміра Васіля Старавойтава, разумнага гаспадарніка, мужнага чалавека. "Няма ў калгасе такой сілы, якая б прымусіла чалавека добра працаваць", — сказаў ён. Замест таго, каб пераймаць разумнае ад разумнага чалавека, вы гатовы з гразёю змяшаць усё жывое, каб толькі захаваць сістэму хлусні, гвалту і рабаўніцтва.

**Мікола ЯЎМЕНЕНКА,**
*в. Чудзенічы Лагойскага раёна.*

## З чалавечай годнасцю жыць можна лепш і цікавей

**Віктар ХАРОШКА**

***Вёску Леніна, што ў Дзяржынскім раёне, узрушыла навіна. Стары Арцюшэўскі выгнаў з двара брыгадзіра. Чалавека, да якога кожны мясцовы жыхар падыходзіць калі не з павагай, то хаця б з ліслівай усмешкай на твары.***

Счапіліся ж Арцюшэўскія з мясцовымі ўладамі, як заўсёды, не з-за дробязі. Задумаў кіраўнік калгаса асушыць прылягаючае да вёскі балота з купінай алешніку, спраміць рэчку Усу.

Арцюшэўскія, бацька з дачкой, пайшлі ад хаты да хаты, гутарылі з аднавяскоўцамі, склікалі на сход.

— Не пагавораць з намі, спалім тэхніку, — гучала як апошняе папярэджанне меліяратарам і тым, хто задумаў у чарговы раз зноў паласаваць тутэйшую зямлю канавамі.

Сход адбыўся. І з аднаго боку падыходзілі да людзей прадстаўнікі ўлады, і з другога. Хацелі, каб менш было шуму. Хацелі правесці сход ціхенька, на ферме. Але з Арцюшэўскімі такія фокусы не праходзяць. Прыйшла ўся вёска.

Усю пойму адстаяць не ўдалося: зламалі ўсё ж многіх людзей намёкамі ды пагрозамі. Але алешнік, недзе 10 гектараў з 250, застаўся цэлым. Тут табе і дровы, і каровам ёсць дзе пасвіцца і ваду піць, і салавей спявае. Людзі адчулі сваю моц.

Мне асабіста прыемна ўсведамляць тое, што беларус у асобах Арцюшэўскіх — не цёмны чалавек. А калі і цёмны, дык побач з Арцюшэўскімі святлее. Душой, учынкамі, усведамленнем сваёй існасці. Станіслава Сцяпанавіча і Ганну Станіславаўну абураюць паўсядзённыя стогны і слёзы абяздоленых людзей у газетах. Не могуць самі за сябе пастаяць.

А ўвогуле, нашто мне цытаваць Арцюшэўскіх. Лепш я дам ім выказацца. І вы зразумееце, чаму за імі ідуць людзі, чаму іх ніколі ўлады не прымусілі скарыцца, чаму беларус сёння ўяўляе сабой у большасці сваёй заложніка рэчаіснасці.

**Арцюшэўскія**
**Станіслаў Сцяпанавіч**
**і Ганна Станіславаўна:**

Змаганне з чыноўніцкай дуратой для нас не самамэта. Крыўдна іншае. Балюча за тое, што беларус прыпадобніўся да звычайнага раба. Мужык цягне ўсё жыццё. І лічыць, што так павінна быць, што ўсім, каму толькі хочацца, можна сцебануць яго пугай ці штурхануць.

Даходзіць да маразму. Паспрабуй сёння вяскоўцу сказаць, што ён разумны, — пакрыўдзіцца. І толькі таму, што ўкаранілася ў яго падкорцы апраўдальная "мыслишка": не ўсім жа быць разумнымі. Трэба камусьці і кароў пасвіць.

Дзе такі чалавек пастаіць за сябе, за гаротную сялянскую праўду!

Кожнаму чалавеку ўласціва такая якасць, як баязлівасць. Хай сабе ён начальнік, хай конюх ці дворнік. Дык чаму беларусы часцяком забываюцца на гэтую акалічнасць? Мы, напрыклад, ні разу ні перад самай нязначнай нахабнасцю не спыніліся. Заўсёды давалі адпор. Нават я, жанчына, — хуліганам. Супраць рашучасці рэціруюцца.

Не далі, напрыклад, за нашы "выступленні" нам сёлета сена. Папраўдзе, і без яго абышліся б. Але ж годнасць закранулі. Без тлумачэнняў у кут захацелі паставіць. Не выйшла. І сена прывезлі, і размаўляюць як нічога і не было. Толькі прабачэння папрасіць духу не хапае. Тая ж прыніжальная псіхалогія спрацоўвае.

Пераадолее народ наш гэту хваробу — і добра зажыве. Бо са сваёй чалавечай годнасцю жыць намнога лепш і цікавей. Хаця і неспакойна.

**P.S.** *Героі нашыя — звычайныя людзі. Станіслаў Сцяпанавіч — пенсіянер. Былы дырэктар школы. Зараз яму больш як 80 гадоў. Але які цвярозы розум!*

*Ганна Станіславаўна — бібліятэкар. Мае вышэйшую адукацыю.*

*Жывуць у вёсцы. У прыгажэйшых мясцінах над ціхаю рэчкаю Усаю, якую хочуць загубіць меліяратары.*

Аўтабіяэкалагічныя прытчы Анатоля КАЗЛОВІЧА

## Прытча 16. Як чалавек выратаваў травінку, а значыць, і сябе.

Што родніць чалавека і прыроду? І што раз'ядноўвае?

У Беларусі, на шчасце, яшчэ не звяліся людзі, якія імкнуцца атрымаць адказы на гэтыя наіўныя, а таму кардынальныя пытанні сучаснай цывілізацыі. Такіх людзей вельмі мала, сустрэчы з імі я лічу за падарункі лёсу.

"Паважаны Анатоль Мікалаевіч, добры дзень! Піша ваш зямляк з Бярозаўшчыны Амялюсік Мікалай Васільевіч. Родам я з вёскі Стаўкі (чулі пра такую?) Междулескага сельсавета. Жыву зараз у Белазёрску. Працую ў будаўнічым упраўленні нумар 478. Ёсць такая арганізацыя, гэта земснарады. А раней працаваў у Сігневіцкім упраўленні меліярацыі, дзе калісьці працавалі і вы.

Мне прыходзіцца бываць на розных меліярацыйных аб'ектах, дзе мы намываем дамбы вадасховішчаў. Усё больш бачу: калі такая меліярацыя будзе працягвацца, то ў бліжэйшы час мы сваімі рукамі закапаем сябе ў магілу. Гэта бачаць многія меліяратары. Але бяда ў тым, што маўчаць, як рабы".

Зямляк напісаў мне ліст у Мінск. А сустрэліся мы ў маёй вёсцы Горск, куды Мікалай прыляцеў за пяцьдзесят кіламетраў з Белазёрска на матацыкле. Малады чалавек уразіў мяне трапным позіркам на прыроду, у якой ён бачыў і разумеў паасобку кожную птушку, травінку, казюльку, а ўсіх разам успрымаў як адну сям'ю, у якую радавым членам уключаў і сваю персону.

Сваю філасофію Мікалай Амялюсік ілюстраваў уласнымі фотаздымкамі птушак, травінак і казюлек, а таксама паэтычнымі замалёўкамі, якія друкаваў у газетах (пазней выпусціў асобнай кніжачкай).

Земснарад геадэзіста Амялюсіка стаяў якраз у Спораўскіх балотах, вядомых у Беларусі сваёй непрыступнасцю. У вайну там атабарыліся партызаны: стукнуць па немцах — і ў балотную крэпасць. Немцы так і не змаглі яе ўзяць. Узялі пасля вайны меліяратары. Пракапалі каналы, спусцілі ваду. На асушаных тарфяніках распачалі будаваць саўгас пад назвай "Октябрьский".

Блукаючы сярод гор разварочанай зямлі, Мікалай натрапіў на расліну, якая па-навуковаму называлася венерын чаравічак. Знайшоў цэлую плантацыю. Ён ведаў, што венерын чаравічак цяпер у Беларусі амаль не сустрэнеш, што ён у "Чырвонай кнізе".

Можаце зразумець пачуцці Мікалая, калі на санцапёку ён убачыў звялы венерын чаравічак? Ён жа, Мікалай, кожную травінку адчувае як уласную валасінку.

Па трывозе "мясцовага жыхара Амялюсіка" ў Бярозаўскі раён выехала навуковая экспедыцыя з Мінска. У Спораўскіх балотах яна знайшла ў натуры "Чырвоную кнігу" Беларусі. Меліярацыйныя работы вяліся на агромністай плошчы без аніякага экалагічнага абгрунтавання.

Калі б не пільныя вочы і не чуйнае сэрца Мікалая, назаўсёды быў бы пахаваны унікальны куточак прыроды.

Па патрабаванню навуковага інстытута меліярацыя ў тым куточку была спынена і ўтвораны біялагічны заказнік "Спораўскі". Калі меліяратары не вернуцца, то прырода адродзіць сваю непаўторнасць і шматаблічча. Пазнаёмцеся з насельнікамі заказніка, хросным бацькам якога лічыцца Мікалай Амялюсік. Пры гэтым не забывайце, што ўсе насельнікі перайшлі туды з "Чырвонай кнігі", з магілы. Вось яны, шчаслівыя:

**Венерын чаравічак.**
**Званочак персікалісты.**
**Дрэмлік цёмна-чырвоны.**
**Гарачаўка крыжападобная.**
**Шпажнік чарапітчаты.**
**Гарлачык малы.**
**Гарлачык белы.**
**Любка двухлістая.**
**Любка зялёнацветная.**
**Пыльцагалаўнік чырвоны.**
**Тайнік яйцавідны.**
**Гваздзік картузіянскі.**
**Барсук.**
**Балотная чарапаха.**
**Лебедзь-шыпун.**
**Чайка шызая.**
**Чайка малая.**
**Саракапут шэры.**
**Бусел чорны.**
**Рэмез.**
**Малая паганка.**
**Кроншнеп вялікі.**
**Чапля белая.**
**Жураў шэры.**

Вас раздражняе доўгі пералік? О, гэта сімптаматычна! Тады вас раздражняе і шматаблічча вашых братоў, сясцёр, зяцёў, нявестак, дзяцей, унукаў, праўнукаў, дзядоў, прадзедаў, цётак, дзядзькаў, залвіц, дваюрадных, траюрадных, унучатых... А без іх усіх вы — без роду без племені. Вырадак, як кажуць у народзе. Манкурт.

Тады вас можна садзіць альбо ў танк, альбо ў экскаватар — і пасылаць забіваць: альбо ў Чэчню, альбо на Палессе. Ліквідаваць на зямлі альбо венерын чаравічак, альбо чалавека. Дзяржаве, якая вас паставіла на сваю службу, усё роўна, каго забіваць: ці казюльку, ці Ганульку.

Перш чым забіваць, дзяржава выпрацоўвае палітыку: фашызм, сталінізм, расізм, апартэід, палпотызацыя, хунвейбінізацыя, меліярацыя...

Вы не задумваліся, што пералічаныя тэрміны — з аднаго лагічнага рада? Вас шакіруе? Вы не жадаеце думаць над маім пералікам?

Хто не хоча думаць — лузыце семкі. Хто хоча — слухайце далей.

"Меліярацыю" бяром у двукоссе, таму што яна не сапраўдная. "Меліярацыя" ў савецкім яе варыянце нічога агульнага не мае з народным вопытам паляпшэння зямлі, аб чым я расказваў у адной з прытчаў.

Пра "меліярацыю" я напісаў некалькі дакументальных кніг. Факты сведчаць, што "меліярацыя" ў дачыненні да Беларусі — паняцце ў многіх выпадках выключна палітычнае, а не гаспадарча-вытворчае. Перш чым абгрунтаваць і распрацаваць тыя ці іншыя тэхналагічныя прыёмы "меліярацыі", "навукоўцы" (таксама бяром у двукоссе!) штудзіравалі даклады генсекаў аб чарговым палітычным моманце. Чарненка быў генсекам некалькі месяцаў, а паспеў правесці пленум ЦК КПСС, прысвечаны "меліярацыі". Сам стаяў у магіле і цягнуў туды ўсіх нас.

Беларусь займела свайго генія ў справе гібрыдызацыі палітыкі і навукі — акадэміка С. Такога няма ні ў адной краіне. З ім можна параўнаць толькі расійскага Лысенку. Беларускаму акадэміку С. належыць класічна лжэнавуковы тэзіс аб тым, што вада расліне спатрэбілася ў эпоху развітога сацыялізму і што ў сувязі з гэтым трэба будаваць шлюзы, якіх раней, калі быў проста сацыялізм, не будавалі, бо, значыцца, вада раслінам была без патрэбы.

Крыху раней па лысенкаўскай методыцы акадэмік С. даказаў неабходнасць разбурэння ў Беларусі тарфянікаў. За падрабязнасцямі адсылаю дасціпнага чытача да сваёй кнігі "На маёй далоні лінія ракі" (Мінск, 1987 г.), а зараз скажу, што гавораць факты: "меліярацыя" — адно з галоўных злачынстваў савецкага сацыялізму.

"Меліярацыя" як разнавіднасць дзяржаўнай палітыкі ўзнікла па таму шаблону, па якому на адной частцы зямной сушы ўздумалі пабудаваць камунізм.

Паступіла вярхоўная каманда: "Хутчэй пабудаваць камунізм!"

Краіна адказала па-салдацку: ёсць пабудаваць!

Як накарміць народ, каб ён зрабіўся па-камуністычнаму сыты? "Разараць цаліну, асушыць балоты. З новых плошчаў узяць харчы".

Але ж беларускае Палессе — гэта пяскі пад танюсенькай скарынкай торфу, іх небяспечна сушыць, бо замест балота прыйдзе пустыня.

"Торф змяшаецца з пяском — і ўтворыцца новая глеба, яна дасць малако і мяса".

Але ж палешукі не вераць, яны будуюць цяпліцы для гуркоў і памідораў.

"Зламаць!"

Але ж асушаны тарфянік ужо гарыць.

"Патушыць!"

Яго ўжо няма, сплыў у мора, паляцеў у Афрыку. Застаўся бясплодны пясок, ён засыпае вёскі.

"Пасадзіць на ім лес!"

А чым карміць бычкоў?

"Асушыць новыя балоты!"

Канчаюцца балоты...

"Вы што, супраць палітыкі партыі? Партбілет — на стол!"

"Меліярацыя" — палітыка, і ні кроплі болей. Дзяржаўная палітыка вынішчэння, парадніўшая прыроду і чалавека ў іх безабароннасці.

Меліяратар Мікалай Амялюсік гэта ўбачыў на свае вочы — і стаў супраць. Адзін чалавек супраць дзяржавы.

Мікалай паказаў мне карту ягонай радзімы. Нездарма геадэзіст, сам намаляваў, захаваўшы маштаб. Перанёс на паперу ўсе навакольныя лясочкі, лужкі, балоты, усю мясцовую тапаніміку. Перанёс са сваёй памяці, бо ў прыродзе тых лясочкаў, лужкоў ды балот ужо не існавала: загубіла "меліярацыя".

Ёсць такая карта і ў мяне, тапанімічная схема Горскага наваколля, дзе я адрадзіў усе 126 назваў. Пагляджу — і ажываю.

Хопіць лузаць семкі, беларусы. Бярыце алоўкі, малюйце сваю радзіму. Ану ж ажыве, як мульцік.

